# Магістрат



«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №2(80), сакавік, 2013г.

## Пададзена заяўка на правядзеньне мітынгу 25 сакавіка ў Віцебску, парк чыгуначнікаў "Лакамаціў"




## ЗВАРОТ

**старшыні Віцебскай абласной рады Партыі БНФ Леаніда Аўтухова да жыхароў Віцебска і Віцебскай вобласці**

Шаноўнае спадарства, звяртаюся да Вас з нагоды 95 угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. 25 сакавіка 1918 года нашыя продкі аднавілі дзяржаву, якая прыняла дэкларацыю аб незалежнасці. На жаль, ворагі БНР былі мацней і наша маці – Беларусь зноў апынулася пад чырвонай акупацыяй. Сёння зноў існуе небяспека страты незалежнасці. Згубім яе і ў нашых дзяцей не будзе будучыні. Толькі ў вольнай, эўрапейскай і незалежнай краіне народзяцца сапраўдныя сыны і дачкі Беларусі. Таму хопіць сядзець за сваімі кампутарамі і быць „кухоннымі" змагарамі!

25 сакавіка 2013 года запрашаю ўсіх сумленных грамадзян на стадыён „Лакаматыў", дзе ў 17.30 адбудзецца мітынг прысвечаны Дню Волі.

**Слава Героям! Жыве Беларусь!**
**З павагай,**
**Леанід Аўтухоў**

## ЗВАРОТ СТАРШЫНІ РАДЫ БНР ДА 25 САКАВІКА

З нагоды 95-й гадавіны стварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі дзейная старшыня Рады БНР **Івонка Сурвіла** выступіла са зваротам да беларускага народу:

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, віншую вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам, угодкамі таго слаўнага 25-га Сакавіка 1918 году, калі наш народ абвесьціў незалежнасьць сваёй дзяржавы. У той памятны год мы афіцыйна перасталі быць абарыгенамі Паўночна-Заходняга Краю Расейскай Імпэрыі ды сказалі сьвету, што мы — і толькі мы — маем права гаспадарыць на нашай — спрадвечна нашай — зямлі.

Заняло, праўда, яшчэ больш за 70 гадоў цяжкога змаганьня, пакуль Беларусь сталася сувэрэннай Рэспублікай. Але сёньня, ня гледзячы на здраднікаў, якія перахапілі ўладу, ня гледзячы на змушанае маўчаньне, Беларусь жыве — жыве ў супраціве гвалту над свабодай, над правамі чалавека і нацыі.

Так як мы калісь з году ў год пацяшалі сябе, што ніводная імпэрыя ня вечная і што «загляне сонца і ў наша ваконца», сёньня мы таксама ведаем, што дні ўзурпатара палічаныя і ні яму, ні ягоным спонсарам ня ўдасца ўжо сьцерці Беларусь з карты сьвету.



Беларусы — народ цярплівы. Мы цэнім жыцьцё, але мы не рабы. Няхай дыктатар ня думае, што памяркоўнасьці і цярплівасьці беларусаў няма канца.

Наш народ ня раз выходзіў «шчыльнымі радамі» бараніць сваю зямлю. З Божай дапамогай, ён і гэтым разам абароніць жыцьцё рэспублікі сваёй!

Жыве Беларусь!

Магістрат

**Заснавальнік:**
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Выдавец**:
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Адказны за выпуск:**
Хведар Самагуд
**Дызайн:**
Сяржук Серабро
**Вёрстка:**
Сямён Залацец
**Дапамога:**
Віцебскі Цэнтр грамадзкіх ініцыятываў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэклямных і агітацыйных мэтах.

Тэлефоны для кантактаў:
8-029- 380-13-75,
713-22-00, 118-92-38,
711-24-47, 711-08-98,
651-32-53, 517-32-53,
36-18-47, 27-23-39,
23-59-63, 37-27-39.




адрас: вул.Церашковай, д.11, п.№.1.13, Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035
E-mail: kas_vit@tut.by
WWW.NARODNY.ORG



# ПАВАЖАНЫЯ ВІЦЬБІЧЫ!

Для нас, сябраў партыі БНФ і грамадскага аб'яднаньня "Адраджэньне", няма нічога больш важнейшага, чым нашая краіна Беларусь. Не, прабачце, напэўна, ёсьць. Гэта нашыя сем'і. Нам вельмі важна, калі ўвечары прыходзіш з працы, пабачыць шчаслівых дзетак, самому класці іх спаць у дзіцячыя ложкі, па выходных прыбіраць на зямлі каля свайго дома, з надзеяй глядзець у будучыню. Але не ўсе сем'і сёння маюць такую магчымасць. Шмат бацькоў з'ехалі на заробкі, дзеці гадуюцца без належнага нагляду, на працы цісьне кіраўніцтва і "ідеологі", улада зусім знаглела і не саромеецца марнатравіць нашае агульнае дабро і нахабна абіраць саміх сабе на "выбарах". Але надзея ёсьць! Мы разам, аб'яднаўшыся, здольныя змяніць сітуацыю ў краіне, вярнуць бацькоў дзецям, срабіць працу прэстыжнай і з належнай аплатай, каб з упэўненасцю глядзець у будучыню. У нашых руках нашая будучыня! Нашая сям'я, нашая краіна, нашая надзея.

Віцебская абласная арганізацыя партыі БНФ пачынае працу па кансалідацыі былых і сёняшніх прыхільнікаў ідэяў незалежнасьці, свабоды і абароны народных інтарэсаў. Нас шмат, з розных прычынаў яшчэ больш сябраў адыйшлі ад партыйнай працы, але засталіся БНФ-аўцамі. Абарона сям'і, стварэньне новых працоўных месцаў, лакальныя мерапрыемствы па абароне беларускай мовы і культуры, маленькія перамогі над нашымі недабразычліўцамі – вось нашыя прыярытэты. Партыя БНФ заўсёды абапіралася на сваіх прыхільнікаў, на іх моцныя сем'і, дабрабыт і спакой нашых родных былі вышэй за ўсё. Таму вырашана ў кожным з гарадоў, дзе працуюць арганізацыі партыі БНФ, у бліжэйшыя месяцы правесці сустрэчы па абмеркаванні надзённых пытанняў рэгіёна, у першую чаргу аховы здароў'я, адукацыі, жыльлёвых праблемаў і пытанняў камунальнай гаспадаркі. Па ўсіх пытаньнях прозьба звяртацца да кіраўнікоў рэгіянальных арганізацыяў Полацка, Наваполацка, Оршы, Глыбокага, Гарадка, Шаркаўшчыны, Ушачаў, Верхнядзвінска, Докшыцаў, Браслава, Сянна, Бешанковічаў, Шуміліна, Паставаў, Лепеля і Чашнікаў, Навалукомля, кіраўніка абласной арганізацыі партыі БНФ Леаніда Аўтухова (МТС 33-3081884) і на электронную адрэсу kas_vit@tut.by. Пра ходу правядзення мерапрыемстваў і графік сустрэчаў глядзіце на партыйным сайце http://narodny.org Вяртайцеся і далучайцеся! Будзем разам!




Пішыце аб праблемах, якія вас хвалююць, прапановах па іх вырашэнню, эксперты партыі БНФ дапамогуць Вам правільна скласці скаргу на неприбранае смецце і паламаныя ходнікі як гэта было вырашана ў Глыбокім, прыбраць хамаватага начальніка як у Віцебску, дамагчыся паляпшэння навучання і вольнага часу ў Сянно. Ні водную праблему не пакінем па-за ўвагай. Разам да лепшага жыцця!

# АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ

**Заклікаем пералічваць ахвяраваньні на дзейнасьць ГА БНФ "Адраджэньне"**

**Рэквізыты:**
**ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАНЬНЕ БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ"**
**р/р 3015100147004 ААТ "Белзнешэканомбанк"**
**філіял Мінскае аддзяленьне № 1 код 226**
**УНП: 100052236**
**У графе "прызначэньне плацяжу" просім пазначыць:**
**— для ахвяраваньняў на статутную дзейнасьць — "бязвыплатны ўзнос"**
**— для ахвяраваньняў на аплату сядзібы — "бязвыплатны ўзнос на аплату арэнды памяшканьня"**
**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ЗА ВАШЫЯ АХВЯРАВАНЬНІ!**

# ХОЧЕМ БЫТЬ БЛИЖЕ ЛЮДЯМ, ИДТИ В КАЖДУЮ СЕМЬЮ

Партия БНФ уже заявила о подготовке к выборам в местные Советы. Эти выборы, впрочем, могут стать хорошим стартом для оппозиции. Они проходят не так "близко" к президентской кампании, как выборы 2010 года, и не так "далеко", чтобы сформированные предвыборные штабы кандидатов в депутаты и агитационные группы могли потерять свои навыки. С другой стороны, каждая избирательная кампания требует максимального напряжения сил от партий и политических организаций.

Как заявил в интервью сайту "Товарищ.online" лидер Партии БНФ Алексей Янукевич, БНФ не одинока в своем желании поучаствовать и в местных выборах. По его словам, этот вопрос обсуждался в переговорах с сегодняшними союзниками ПБНФ – Движением "За свободу" и кампанией "Говори правду". И нашли практически полный консенсус.

"Вопрос местных выборов, безусловно, является одной из тем наших консультаций с Движением "За свободу" и кампанией "Говори правду". Предварительно, насколько мы знаем, их позиция близка к нашей, они настроены выдвигать кандидатов. И на сегодня мы допускаем – это еще не окончательное решение, но вероятно, что будет подготовлен некий совместный план участия в местных выборах", – заявил Янукевич.

Однако эти выборы могут пройти в новых условиях – если будет учтено пожелание Лидии Ермошиной о том, чтобы ликвидировать в Беларуси сельские и поселковые Советы – то есть, Советы первого уровня. БНФ категорически против такой реформы.

"Безусловно, мы против отмены местных Советов первичного уровня. Мы за то, чтобы местные Советы, от поселкового до самого крупного имели настоящую власть. И мы будем привлекать внимание людей к этой проблеме и убеждать их в том, что в этом состоит их прямой интерес", – говорит Янукевич.

По его словам, степень полномочий местных Советов вообще может стать центральным вопросом ПБНФ на этих выборах. "Одной из тем, которую мы будем поднимать во время подготовки к местным выборам, это тема того, что местная власть фактически уничтожена – уничтожена самоуправление в Беларуси. И это очень негативно сказывается на жизни людей, на их возможность влиять на те решения, которые влияют на их повседневную жизнь. Местная власть сейчас не представляет какого-то веса, но мы будем убеждать людей, что местная власть, независимая от центральной власти, а зависимая от самих жителей, и является надежным гарантом того, что их вопросы, их проблемы будут решаться самым наилучшим образом", – говорит Янукевич.

При этом он не приемлет тактику бойкота местных выборов. "На наш взгляд участие или неучастие в местных выборах никак не влияет на степень легитимности власти, как с точки зрения юридической, так и с точки зрения обычных граждан. Поэтому мы считаем, что на местных выборах аргументов за бойкот будет еще меньше, чем на прошлых парламентских выборах. Но, повторюсь, наша позиция была озвучена перед парламентскими выборами. Неважно выступает та или иная политическая сила за бойкот, либо за участие в выборах, важно, чтобы это не превратилось в борьбу друг против друга, чтобы различные тактики работали на одну стратегию", – считает Янукевич.

Политик отметил, что если эти случаи будут (призывы за бойкот местных выборов), то все равно ПБНФ будет находиться в контакте с такими силами и координировать совместную стратегию. Я убежден, что это будет возможно.

А цель участия в местных выборах для БНФ проста: "подтянуть под себя" электорат. "Мы убеждены, что на сегодняшний момент критически стоит



задача повышения влияния демократических сил, и Партии БНФ в частности среди людей. Мы считаем, что именно решении их местных проблем может быть сильным инструментом повышения такого влияния. Местные выборы, безусловно будут происходить под контролем властей, здесь мы не имеем никаких иллюзий, ни один наш представитель не попадет в состав этих Советов. Но во время местных выборов будет дополнительный и очень сильный повод для того, чтобы привлечь внимание людей к тому, что наши региональные лидеры, наши региональные структуры много работают для людей и для улучшения их жизни. Поэтому мы обязательно будем выдвигать наших кандидатов, наших местных лидеров, чтобы в очередной раз продемонстрировать их обществу", – говорит партийный лидер.

А прицел после местных выборов, безусловно, президентские. Надо отметить, что нынешнее избирательное "расписание" достаточно благоприятно для оппозиции. Местные выборы находятся не настолько "близко" к президентской кампании, как в 2010 году, чтобы партии сконцентрировались, прежде, всего, на президентских выборах и "пробросили" людей на местных. И не так "далеко", чтобы команды и актив избирательных штабов успели бы разбежаться, позабыть инструктажи и утратить навыки работы с населением. Кстати, и население за почти год, разделяющий президентские и местные выборы, не очень сильно забудет своих кандидатов и агитаторов.

Понимает это и Янукевич. "Безусловно, подготовка к проведению местных выборов и проведение этих выборов — важный этап подготовки к выборам президентским. Было бы очень глупо, если бы работа, которая будет проводиться на местных выборах, была бы "проброшена", а готовиться к президентским выборам мы начали с нуля. Однако мы не рассматриваем местные выборы как просто этап к подготовке президентских выборов. Это важная и самодостаточная компания, это важный этап работы", – заявил он.

Сергей Веселкин, "Товарищ.online"

# ТРЭЦЯЯ ЎСТАЎНАЯ ГРАМАТА РАДЫ БНР

**Год таму назад народы Беларусі разам з народамі Расеі скінулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыцісьнуў быў Беларусь; не пытаючыся народу, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія.**

**Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край.**

**Ад гэтага часу Беларуская Народнай Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю вольнаю дзяржавай. Самі народы Беларусі ў асобе Ўстаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.**

**На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае насьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі.**

**На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзець тую часьціну Берасьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.**

**Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гарадненшчыны (з Горадняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленчшыны і сумежных часьцяў суседніх губэрняў, заселеных беларусамі.**

**Беларуская народная Рэспубліка зацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Ўстаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 року.**

**Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна дзяржаўны ідэал.**

**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі**
**Дана ў Менску-Беларускім 25 сакавіка 1918 року.**

**«МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ»**
*Словы Макара Краўцова*
*Музыка Уладзімера Тэраўскага*

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны свой прастор.
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор!

Няхай жыве магутны, сьмелы
Наш беларускі вольны дух.
Штандар наш бел-чырвона-белы,
Пакрый сабой народны рух.

На бой! За шчасьце і за волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі,
На бой — усе да аднаго!

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й убачыць той,
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першы выкліча на бой.

Браты, да шчасьця мы падходзім:
Хай гром грыміць яшчэ мацней!
У крывавых муках мы народзім
Жыцьцё Рэспублікі сваёй!

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЫКТОЎКА Ў ВІЦЕБСКУ

14 сакавіка актывісты партыі БНФ, БСДП (Грамада), Руха «За Свабоду», БХД, кампаніі «Гавары праўду», КХП-БНФ, грамадскія актывісты з голаса Зінаіды Бандарэнкі напісалі нацыянальную дыктоўку па другому лісту з-пад шыбеніцы Кастуся Каліноўскага. Таксама накіравалі лісты палітычным зняволеным, якія знаходзяцца пад вартай. Праз тыдзень тым, хто зрабіў найменей памылак будуць уручаныя памятныя прызы ад каардынатарара Руха «За Свабоду» Хрыстафора Жаляпава.

Прапануем тэкст дыктоўкі, каб самасойна прачытаць для праверкі сваім родным і блізкім.



**ЛІСТ ДРУГІ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА З-ПАД ШЫБЕНІЦЫ.**

**Браты мае, мужыкі родныя. З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці, і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца,- но не жаль згінуць за тваю праўду.**

**Прыймі, народзе, па шчырасці маё слова прадсмертнае, бо яно як з таго света толькі для дабра твайго напісана.**

**Няма ш, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і науку. Тагды ён толька магчыме жыці ў багацтве, папраўдзе, тагды ён толька, памаліўшысь Богу, заслужыць неба, калі збагаціць наукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу сэрцам палюбіць. Но як дзень з ноччу не ходзіць разам, так не ідзе разам наука праўдзіва з няволяй маскоўскай. Дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай наукі,- адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, но на пагібель нашу.**

**Для таго, Народзе, як толька калі пачуеш, што браты твае з-пад Варшавы б'юцца за праўду й свабоду, тагды і ты не аставайся ззаду, но, ухапіўшы за што зможаш, за касу, сакеру, цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю радную.**

**Бо я табе з-пад шебеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжэ не будзе.**